# Голас Радзімы

№ 17 (2159)
26 красавіка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



У сусветна вядомай Хатыні Вечны агонь нагадвае пра кожнага чацвёртага жыхара Беларусі, які згінуў у гады фашызму. Здавалася б, хопіць ужо на нашай зямлі такіх сумных помнікаў пакутам, гору і слязам беларусаў. Але ж не. Няўмольны лёс пасылае новыя выпрабаванні, а жалобны спіс трагічных назваў расце і сёння. Зараз у яго трапляюць гарады, вёскі, паселішчы з «зоны». Што такое «зона»! На Беларусі на такое пытанне адкажа практычна кожны чалавек. «Зона» — гэта наша, беларуская зямля, дзе пасялілася смерць. А пасяліла яе там чарнобыльская катастрофа 1986-га года.

Сум і жалобу мінулай вайны сімвалізуе Хатынь. Сум і жалобу нашага часу сімвалізуюць Чудзяны або Малінаўка на Магілёўшчыне, дзе шчыльнасць радыяцыйнага забруджвання складае 140 кюры на квадратны кіламетр. Яны нібы помнік сучаснаму кожнаму чацвёртаму беларусу, які атрымаў большы ці меншы радыяцыйны ўдар. Можа, там таксама ўзвесці мемарыял! Але хто ж паедзе да смяртэльна небяспечнага помніка! Тады ёсць магчымасць падабраць аб'ект меншай заражанасці — скажам, 60 кюры, 40 альбо 30, 15 ці 5— ёсць з чаго выбраць, бо 70 працэнтаў забруджанай Чарнобылем тэрыторыі краіны ляжыць менавіта ў Беларусі. Радыяцыяй «засыпаны» 23 раёны, 27 гарадоў і 2 670 сельскіх населеных пунктаў, страчана пятая частка сельгасугоддзяў. Знак гэтай нацыянальнай трагедыі вызначае цяперашняе грамадска-палітычнае, эканамічнае жыццё Беларусі, бударажыць грамадскія пачуцці. І вось, нарэшце, 26 красавіка, ракавы дзень на нашым календары, афіцыйна ўзяты ў чорнае абрамленне: спецыяльным указам ён аб'яўлены агульным днём жалобы, калі будзе прыспушчаны Дзяржаўны флаг БССР, пройдуць мітынгі, сходы, шэсці. Гэта там, дзе ёсць, жывуць людзі. А ў мёртвых раёнах і 26 красавіка будзе стаяць мёртвая цішыня. Там зона...





НА ЗДЫМКАХ: так выглядаюць знакі бяды на зямлі Хойніцкага раёна на Гомельшчыне; сярод іншых выселеных паселішчаў і вёска Бабчын.

Фота А. БІРЫЛКІ.

УРАЧЫСТЫЯ СХОДЫ

## ЛЕНІНСКІ ЮБІЛЕЙ

**Напярэдадні 120-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна ў многіх савецкіх гарадах прайшлі ўрачыстыя сходы, прысвечаныя знамянальнай даце. Адбыліся яны і ў Мінску, і ў Маскве.**

**У сталіцы краіны перад прысутнымі са «Словам пра Леніна» выступіў Прэзідэнт СССР М. С. Гарбачоў. Ён, у прыватнасці, сказаў:**

**— Нам неабходна пераасэнсаванне Леніна, яго тэарэтычнай і палітычнай творчасці, вызваляючыся пры гэтым і ад скажэнняў, і ад кананізацыі яго высноў. Трэба аддзяліць тое, што належыць мінуламу, ад таго, што застанецца ў інтэлектуальнай, культурнай, духоўнай скарбніцы грамадства як актыўны элемент прагрэсу.**

**Але непрымальная непавага да Леніна. Амаральны і беспадстаўны амбіцыйны, мяшчанскі па сутнасці паклёп на яго як на чалавека. Бяссэнсавыя спробы паставіць пад сумненне высакародства яго мэт і чысціню думак.**

**Так, пара пакончыць з бяздумным да недарэчнасці абыходжаннем з імем і вобразам Леніна, калі яго ператваралі ў «ікону», і мы цяпер добра ведаем, навошта гэта рабілася. Але мы рашуча асуджаем знеслаўленне памяці Леніна, у чым бы гэта ні выражалася і дзе б гэта ні адбывалася— у нас або за мяжой.**

**Таксама ў дакладзе было заўважана, што сёння нярэдка даводзіцца чуць—а ці патрэбна была наогул Кастрычніцкая рэвалюцыя? Ці не лепш было б для Расіі «спыніцца» на Лютым?**

**Несумненна, Лютаўская рэвалюцыя — буйнейшая падзея ў нашай айчыннай гісторыі, сказаў М. С. Гарбачоў. Але ж гэта факт, што буржуазнаменшавіцкі ўрад не вырашыў галоўных пытанняў расійскай рэвалюцыі—ні аб міры, ні аб хлебе, ні аб зямлі. Краіна скочвалася да агульнанацыянальнай катастрофы. Пазней, адхіляючы абвінавачванні ў тым, што бальшавікі наўмысна «залілі краіну крывёю», Ленін гаварыў: «Ці знайшоўся б на свеце хоць адзін дурань, які пайшоў бы на рэвалюцыю, калі б вы (г. зн. меншавікі і эсэры) сапраўды пачалі сацыяльную рэформу? Чаму ж вы гэтага не зрабілі?» — пытаўся Ленін.**

**Ленін заўсёды імкнуўся гранічна вычарпаць магчымасці палітычных рашэнняў. Гаварылі нават аб цэлай ленінскай «тэорыі кампрамісаў». «У нашым ідэале няма месца насіллю над людзьмі». Гэта—ленінскія словы. Вось у што трэба ўнікнуць усім, хто па-сапраўднаму хоча зразумець Леніна.**

У ПРАКУРАТУРЫ СССР

## ЗЛАЧЫНСТВА

**На калегіі Пракуратуры Саюза ССР адзначана, што сістэматычна выяўляюцца факты злачыннага ігнаравання правіл радыяцыйнай бяспекі, скажэнне справаздачных даных аб аказанні медыцынскай дапамогі, крадзяжоў, а таксама парушэння правіл выплаты кампенсацый і прадастаўлення льгот, медыцынскага абследавання і лячэння.**

**Толькі пасля ўмяшання чарнобыльскай вахтавай пракуратуры за два з палавінай гады было спынена 350 спроб вывазу забруджанай радыенуклідамі маёмасці з г. Прыпяці, заведзена 60 крымінальных спраў па фактах пранікнення ў жыллё, якое знаходзіцца ў 30-кіламетровай зоне. Па яе патрабаваннях прыцягнуты да дысцыплінарнай і матэрыяльнай адказнасці звыш 500 чалавек.**

**Прыводзіліся выпадкі, калі некаторыя калгасы тайна скуплівалі забруджаную радыенуклідамі жывёлу для далейшай здачы дзяржаве, калі па ўказанню рада службовых асоб вывозіліся металавырабы, якія маюць высокі ўзровень радыеактыўнасці, для далейшага выкарыстання ў народнай гаспадарцы.**

**Па прадпісанню пракурораў гэтыя і іншыя парушэнні законнасці спынены. Па іх заведзены і расследуюцца крымінальныя справы, якія ў Пракуратуры СССР знаходзяцца на асобым кантролі.**

**Калегія падвергла вострай крытыцы работу пракуратур Украінскай ССР, Беларускай ССР, Бранскай вобласці, якія не заўсёды аператыўна і прынцыпова рэагавалі на дапускаемыя парушэнні заканадаўства, і запатрабавала ад іх, а таксама ад пракурораў РСФСР і галоўнага ваеннага пракурора прыняць рашучыя меры для ўзмацнення пракурорскага нагляду, прымянення да вінаватых усяго персанала сродкаў, устаноўленых законам, — крымінальнага, адміністрацыйнага, матэрыяльнага і дысцыплінарнага ўздзеяння.**

*— У адрас урада, ЦК Кампартыі рэспублікі гучыць крытыка за маруднасць у ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Што ж, напэўна, ёсць у ёй здаровы сэнс. Аднак нямала і наноснага, надуманага, што не адпавядае праўдзе жыцця і фактам. Сёння ўсім нам трэба аб'яднаць намаганні ў барацьбе з агульнай, падкрэсліваю гэта, бядой.*

*Заўважу, што ў бліжэйшы час Вярхоўны Савет СССР абмяркуе і прыме спецыяльную дзяржаўную праграму па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У аснову гэтай праграмы лягуць распрацоўкі ў нашай рэспубліцы. Робіцца максімум магчымага, каб як мага хутчэй ліквідаваць вынікі аварыі.*

*Сёння, калі мы, як гаворыцца, паразумнелі, набылі горкі, але неабходны вопыт у барацьбе са страшнай бядой, многія з нашых першых дзеянняў у тую вясну 1986 года ацэньваем па-іншаму. Аднак, будзем шчырымі, ні тады, у тыя страшныя дні, ні цяпер навука краіны не дае нам выразных адназначных адказаў. У першыя гады мы, па сутнасці, дзейнічалі навобмацак, атрымліваючы супярэчлівыя парады, не маючы ніякіх канкрэтных даных і ніякай навуковай канцэпцыі. Ды і існуючая сёння канцэпцыя, што дапускае накапленне радыяцыі ў арганізме чалавека да 35 бэр за 70 гадоў, не можа нас задаволіць. Кіраўніцтва рэспублікі рашуча не згоднае з ёю. Наша пазіцыя падказана сялянскай мудрасцю: там, дзе нельга ўжываць прадукты са свайго падвор'я, жыць немагчыма. І мы будзем дабівацца рэалізацыі гэтай пазіцыі.*

*Рэспубліка панесла каласальны матэрыяльны ўрон: у суме ён складае з улікам распаду стронцыю, цэзію і плутонію звыш 82 мільярдаў рублёў! Каб папоўніць яго, спатрэбяцца многія гады ўпартай працы.*

*(З інтэрв'ю першага сакратара КПБ Я. САКАЛОВА газеце «Советская Белоруссия»).*

АСВОЕНЫ ВЫПУСК

## НА ШЛЯХУ ДА ДЗІСНЕЙЛЕНДА

**Серыйны выпуск сучасных камп'ютэрных гульнявых аўтаматаў асвоілі спецыялісты рэспубліканскага аб'яднання «Белатракцыён». Гэта толькі частка той працы, якая ў выніку дазволіць наладзіць індустрыю адпачынку, лічыць дырэктар аб'яднання Аляксандр Калінін. У канцы гэтага года плануецца пачаць мантаж першых атракцыёнаў. Сярод іх ёсць унікальныя. Скажам, горка для катання — 150-метровы звілісты рэйкавы пуць з «мёртвай пятлёй», па якому з вялікай хуткасцю рухаецца поезд. Няма аналагаў у «Паветранага палёту», дзе можна кіраваць вышынёй, па-свойму цікавыя каруселі «Ўзлёт» і «Лятаючыя пчолы», арэлі «Планета», «Буран» і «Зубр». Дарэчы, апошнія ўяўляюць сабой прыгожа аформленую лодку, у якую адначасова змогуць сесці 40 чалавек.**

ГАДАВІНА ТРАГЕДЫІ

# ЧАРНОБЫЛЬСКІ ВЫБУХ У КОЖНЫМ З НАС

Чарнобыльская трагедыя зараз на слыху ва ўсёй краіны. У сувязі з ёю прыняты дзесяткі пастаноў, на ліквідацыю яе вынікаў ужо патрачаны многія сотні мільёнаў рублёў. Але бяда, на жаль, не зрабілася меншай, маштабы забруджвання не звузіліся, а наадварот, разрастаюцца. У гэтым можна пераканацца, калі сёння пабываць на Магілёўшчыне, Гомельшчыне. Там, у зоне, добра відаць: хаця ад хлусні пра яе перайшлі пакуль толькі да паўпраўды, але ўжо вырысоўваюцца пазіцыі, робяцца зразумелымі многія раней туманныя праблемы...

На Беларусі ўсе планы на перспектыву карэкціруюцца цяпер адпаведна чарнобыльскім справам. Летась была зацверджана Дзяржаўная комплексная праграма БССР па ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС, якая ацэньваецца ў 17 мільярдаў рублёў. Сума велізарная — амаль два гадавыя бюджэты рэспублікі. Без дапамогі краіны не абысціся, але, на жаль, народныя дэпутаты СССР не спяшаюцца з абмеркаваннем гэтага пытання — па настойліваму патрабаванню беларускай дэлегацыі праблема Чарнобыля ўключана ў парадак дня цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета краіны толькі дваццаць першым пунктам, і то як выключэнне.

У рэспубліцы гэтая «ўступка» ацэньваецца вельмі рэзка. Але некаторыя цэнтральныя ведамствы ў Маскве па-ранейшаму лічаць, што на Беларусі «распальваюцца нездаровыя эмоцыі»... Цяжка зразумець іх дзеячам, што нельга жыць там, дзе няма магчымасці дыхаць незаражаным паветрам, свабодна хадзіць у лес, купацца ў рэчцы, атрымліваць чыстую сельгаспрадукцыю. А зараз жа даходзіць да таго, што перад здачай бычкоў іх мыюць мылам (!), каб атрымаць чыстую прадукцыю.

Народ усё вастрэй, больш хваравіта рэагуе на падобныя факты, нездавальняючую сітуацыю ў цэлым, якая склалася ў зоне. Адсюль — шквал мітынгаў, забастовак, пікетаванняў, іншых форм масавага пратэсту.

Яшчэ ў 1986-м годзе Беларусі была прапанавана праграма «70 бэр за 70 год», па якой тыя ж Чудзяны і Малінаўку трэба было не высяляць, а добраўпарадкоўваць. Таму ў забруджаных раёнах асфальтаваліся дарогі, газіфікаваліся вёскі, вялося разнастайнае будаўніцтва. Многім тады не хапіла разумення, рэальнай ацэнкі сітуацыі, ведаў...

У 1987-м вучоныя зноў пабывалі ў нас і пайшлі на зніжэнне парога выжывальнасці: устанавілі новую норму — 50 бэр за 50 гадоў жыцця. Гэта схема ўжо дазволіла паставіць пытанне аб перасяленні ўсё тых жа сумна вядомых Чудзян, Малінаўкі... Зона дачакалася нараджэння чарговай і самай трывалай канцэпцыі — зараз ужо 35-бэрнай.

Летась дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР намецілі нарэшце контуры арганізаванага перасялення людзей з забруджаных тэрыторый цэлымі вёскамі, гаспадаркамі. На гэты год — з тых месцаў, дзе больш за 40 кюры на квадратны кіламетр (для гэтага трэба пабудаваць 41 пасёлак). Потым пойдуць тыя мясціны, дзе ад 15 кюры і вышэй. А некалькі месяцаў назад выйшлі яшчэ дзве дадатковыя ўрадавыя пастановы. Яны прадпісваюць паскорыць працэс перасялення, дзейнічаць больш аператыўна, эфектыўна, аб'ядноўваць агульныя намаганні. Але, як сведчаць сродкі масавай інфармацыі, ды і само жыццё, патрэбны ўзровень вырашэння праблемы яшчэ далёка не дасягнуты. Высветлілася між іншым, што не толькі жыллё чарнобыльскім бежанцам няпроста знайсці, але і з працаўладкаваннем клопатаў хапае. У сваю чаргу абвастрылася праблема забеспячэння кваліфікаванымі спецыялістамі ў нявыселеных пакуль калгасах і саўгасах з забруджаных тэрыторый: прамаруджванне з перасяленнем выклікала масавы выезд моладзі, прыезджых спецыялістаў.

Сёння робіцца зразумелым, што, акрамя матэрыяльна-эканамічных, Чарнобыль нарадзіў цэлы клубок маральна-этычных, псіхалагічных праблем. Калі па шчырасці, то не ўсюды перасяленцаў сустракаюць як жаданых гасцей. Ды і паміж імі самімі час ад часу могуць узнікаць спрэчкі, каму ў першую чаргу патрабуецца дапамога, бо пакуль яна не носіць усеагульнага характару: не хапае сіл і матэрыяльных сродкаў. А калі прыгадаць, што хутка грамадства можа сутыкнуцца з праблемай «чарнобыльскіх» жаніхоў і нявест? Усё гэта яшчэ і яшчэ раз гаворыць: трэба хутчэй ратаваць людзей, ратаваць нацыю, бо сёння толькі ў зоне жорсткага кантролю знаходзіцца 30 тысяч беларускіх дзяцей! Трэба тэрмінова будаваць новыя пасёлкі, неабходна добрая медыцынская дапамога, значна больш эфектыўныя лекі. Бо ў так званы ўсесаюзны размеркавальны рэгістр медыкі ўжо ўнеслі 173 тысячы чалавек.

...Той, хто бываў у зоне, расказвае: там уздоўж дарог сцелецца цяжкі дым. Гэта людзі выпальваюць леташнюю траву — ім здаецца, што так спапяліцца радыяцыйная зараза і на тых месцах з'явіцца чыстая зяляніна... Яны не вераць, што для нас, сённяшніх, гэта зямля так і застанецца хворай. Але гэта жорсткая праўда.

ДА 45-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ






**У горадзе Хемеры (ФРГ) устаноўлена мемарыяльная дошка на рускіх могілках, дзе пахаваны савецкія ваеннапалонныя. Паблізу горада ў гады другой сусветнай вайны размяшчаўся вялікі лагер ваеннапалонных «Шталаг-6», дзе да 1944 года знаходзілася 97 тысяч вязняў, у асноўным, рускія. Лёс іх сумны. Амаль усе загінулі ад голаду; хвароб і нечалавечых умоў жыцця.**

**Тыя з немцаў, хто не жадае паўтарэння жахаў фашызму на сваёй зямлі, сталі ініцыятарамі ўстанаўлення мемарыяльнай дошкі, надмагільных пліт на ацалелых магілах, а затым і сціплага помніка ваеннапалонным на адной з алей.**

**Нядаўна могілкі наведала група беларускіх журналістаў, тады і былі зроблены гэтыя здымкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: надмагільны помнік рускаму салдату, які загінуў у лагеры «Шталаг-6»; ля помніка загінуўшым.**

## НА ШЛЯХУ ДА ЭКАНАМІЧНАГА СУВЕРЭНІТЭТУ

# ШТО ЗГУБІЛІ, ШТО ЗНАЙШЛІ

Адной са стратэгічных мэт эканамічнай палітыкі Савецкай дзяржавы з'яўляецца наданне саюзным рэспублікам статуса самастойных эканамічных рэгіёнаў у рамках адзінага народнагаспадарчага комплексу. І палітычныя працэсы ў саміх рэспубліках таксама сведчаць пра іх імкненне да эканамічнага суверэнітэту. У тым ліку і да поўнага, звязанага з незалежнай гаспадарчай сістэмай, адасобленай ад саюзнага комплексу ў цэлым. Але Беларусь на сённяшні момант прытрымліваецца, скажам так, умеранай эканамічнай палітыкі.

Летась урад Савецкага Саюза санкцыяніраваў перавод народнай гаспадаркі нашай рэспублікі на прынцыпы самакіравання і самафінансавання. Адметнасць «беларускай мадэлі» ў паступовым пераходзе ад жорсткай цэнтралізацыі ў эканоміцы да гаспадарчай самастойнасці. У рамках гэтай мадэлі з саюзнага ў рэспубліканскае падпарадкаванне перададзены шэраг народнагаспадарчых звенняў. У прыватнасці, удзельная вага прамысловай прадукцыі, выпускаемай прадпрыемствамі, якія знаходзяцца ў распараджэнні рэспублікі, у агульным аб'ёме ўзрасла з 7 да 50 працэнтаў.

Якімі з'явамі суправаджаецца працэс дэцэнтралізацыі савецкай эканомікі? Як успрымаецца яна працоўнымі калектывамі, каго непасрэдна закранае? Адказы на пастаўленыя пытанні я вырашыў атрымаць на канкрэтным прадпрыемстве, якое перайшло сёлета з саюзнага ў рэспубліканскае падпарадкаванне — на Мінскім маргарынавым заводзе.

Да сёлетняга года ён знаходзіўся ў саставе «Саюзмаргарынпрома» — усесаюзнага аб'яднання па вытворчасці маргарынавай прадукцыі. З 1 студзеня перададзены ў распараджэнне Дзяржагапрома БССР. Здавалася б, такі ход падзей павінен быў выклікаць толькі станоўчую рэакцыю ў працоўным калектыве. Ва ўсякім разе да гэтай высновы падводзіць сэнс, на якім і грунтуецца цяга да гаспадарчай самастойнасці. Аднак на справе аказалася інакш. Гаворыць Жан Віткоўскі, начальнік планавага аддзела завода:

— Рашэнне аб ліквідацыі саюзнага ведамства і перадачы завода ў рэспубліканскі аграпром мы ўспрынялі без задавальнення. Прычыны такіх стрыманых адносін маюць выключна эканамічны змест. На прадпрыемстве намецілася ўскладненне гаспадарчай сітуацыі, узнікненне цяжкасцей, у першую чаргу ў матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні.

Трывогі, выказаныя кіраўніком адной з эканамічных служб завода, на жаль, спраўдзіліся. І ў гэтым нічога дзіўнага няма. Чаму? Як паведамілі мне на прадпрыемстве, ліквідаваны «Саюзмаргарынпром», у які ўваходзіла 24 аднатыпныя прадпрыемствы з розных рэгіёнаў краіны, праіснаваў звыш двух дзесяцігоддзяў. За гэты час падзел працы ў тэхналогіі вырабу канчатковай прадукцыі прывёў да высокай ступені кааперацыі між імі. Адзіная навуковая і тэхнічная палітыка, агульныя вытворчыя праблемы, безумоўна, зблізілі, зрабілі ўзаемазалежнымі прадпрыемствы па вытворчасці маргарынавай прадукцыі Беларусі, Украіны, Расіі, Арменіі, Грузіі, Малдавіі, іншых саюзных рэспублік.

Перадача іх у рэспубліканскае падпарадкаванне парушыла шматгадовыя ўстойлівыя сувязі. У мінскага завода, у прыватнасці, пачынаючы са студзеня, узнікла вострая праблема з металічнымі накрыўкамі для слоікаў, якія дагэтуль пастаўлялі прадпрыемствы Украіны і Малдавіі. Справа ў тым, што ўрады гэтых рэспублік «замарозілі» цэнтралізаваныя пастаўкі накрывак у Беларусь у сувязі з уласным попытам на іх. Аднак некаторыя прадпрыемствы былога саюзнага ведамства ўсё ж збераглі ранейшыя цесныя вытворчыя сувязі. Аднымі з найбольш надзейных дзелавых партнёраў аказаліся заводы Ерэвана і Тбілісі. Яны не перапынялі пастаўкі, у прыватнасці, армянскае прадпрыемства, нягледзячы на ўсе складанасці грамадскай сітуацыі ў Закаўказзі, выкліканыя міжнацыянальнымі канфліктамі. Надзейнасць жа ў эканамічных сувязях — рэч вельмі каштоўная.

Надзейнымі партнёрамі з'яўляюцца і самі мінчане. Мінскі завод атрымаў асабістае запрашэнне ўступіць у асацыяцыю маргарынавых прадпрыемстваў пры расійскім Дзяржагапроме. Асацыяцыя як гаспадарчая структура ствараецца ў адрозненне ад існаваўшага ведамства не «зверху», а «знізу», гэта значыць самімі працоўнымі калектывамі на добраахвотнай аснове. Мінчане далі станоўчы адказ на запрашэнне. Ужо адбыўся ўстаноўчы з'езд асацыяцыі.

З'яўленне асацыяцыі выклікана не толькі часовай неабходнасцю. Гэта і разумнае перспектыўнае гаспадарчае рашэнне, прадыктаванае дзейнасцю эканамічных законаў. У прыватнасці, прынцып інтэграцыі — сёння адзін з самых прагрэсіўных кірункаў развіцця сусветнай эканомікі. І, наадварот, тэрытарыяльная замкнёнасць — фактар, які стрымлівае эканоміку. Мінскі маргарынавы завод атрымлівае з-за межаў рэспублікі каля 50 працэнтаў сыравіны. У той жа час каля палавіны яго гатовай прадукцыі і вывозіцца з Беларусі. Мінскім маргарынам цалкам забяспечваецца, у прыватнасці, Літва, якая абвясціла сябе нядаўна незалежнай дзяржавай.

Па аднаму Мінскаму маргарынаваму заводу, безумоўна, цяжка меркаваць пра ўвесь працэс пераходу Беларусі на гаспадарчую самастойнасць. І ўсё ж асмелюся выказаць думку, што наша мадэль пераходу, якая мае паступовы характар, ва ўмовах высокай цэнтралізацыі і манапалізацыі эканомікі найбольш аптымальная, будзе суправаджацца найменшай колькасцю непажаданых з'яў. Праўда, многімі гаспадарнікамі адзначаецца, што некаторыя бакі працэсу патрабуюць паскарэння, у прыватнасці, перадача Беларусі правоў самастойнага наладжвання шырокіх эканамічных зносін з замежнымі краінамі. Вядома, што маргарынавая прамысловасць атрымала высокае развіццё ў Швецыі Галандыі, Даніі. І, безумоўна, прамы выхад на гэтыя краіны, вытворчага, навукова-тэхнічнага вопыту, быў бы вельмі для Мінчан карысны.

М. ДАШУК.

## ЦЭНТР ЗДАРОЎЯ Ў МАГІЛЁВЕ





Кантроль за здароўем жыхароў вобласці возьме на сябе новы кансультацыйна-дыягнастычны цэнтр, што адкрыўся ў Магілёве. Гэтым прыгожым чатырнаццаціпавярховым асабняком у абласным цэнтры збіраліся памножыць колькасць адміністрацыйных будынкаў. Тут меркавалася размясціць вылічальны цэнтр Дзяржбанка. Па ініцыятыве мясцовых органаў улады будынак перапрафіліравалі. Ініцыятыўным спосабам у сціслыя тэрміны распрацавалі праект. Прамысловыя прадпрыемствы, будаўнічыя і іншыя арганізацыі горада памаглі зрабіць перапланіроўку і аддзелку кабінетаў, лабараторый. У выніку медыцынскі цэнтр уведзены ў строй удвая хутчэй нарматыўнага тэрміну. Цяпер у вышынным будынку размясцілася дзесяць кансультацыйна - дыягнастычных аддзяленняў. Найноўшая медыцынская тэхніка, якой яны аснашчаны, дазваляе скласці поўную карціну стану здароўя чалавека. Інфармацыя паступае ў банк даных. На яе падставе ўрачы кансультацыйнай паліклінікі гэтага ж цэнтра даюць рэкамендацыі па лячэнню таго ці іншага захворвання.

Прапускная здольнасць новай медыцынскай установы восемсот наведванняў у дзве змены. У першую чаргу яе супрацоўнікі маркуюць правесці старанны агляд жыхароў з зоны, якая пацярпела ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

НА ЗДЫМКАХ: магілёўскі кансультацыйна - дыягнастычны цэнтр; у кабінеце ультрагукавой дыягностыкі.

Фота С. ЖАЛУДОВІЧА.

## ПАШЫРАЕЦЦА МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

# «САВІНЦЭНТР» ПРАПАНОЎВАЕ...

**Звыш 350 мерапрыемстваў у год праводзіць «Савінцэнтр». Гэта ўсесаюзнае аб'яднанне займаецца камерцыйнай і тэхнічнай эксплуатацыяй Цэнтра міжнароднага гандлю і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва (ЦМГ) у Маскве. З яго дапамогай за 10 гадоў заключаны многія тысячы ўзаемавыгадных здзелак. Паслугамі «Савінцэнтра» карыстаюцца да 50 тысяч бізнесменаў штогод.**

Савецкі рынак, лічаць заходнія бізнесмены, выгады абяцае вялікія, але і рызыка, на іх думку, немалая. І адна з прычын такой павышанай асцярожнасці — недахоп інфармацыі.

— Менавіта гэтаму боку дзейнасці сёння ўдзяляецца ў Цэнтры міжнароднага гандлю найбольшая ўвага, — сказаў генеральны дырэктар «Савінцэнтра» Аляксандр Падвалоцкі. — У прыватнасці, уведзены новы від паслуг — забеспячэнне кліентаў дзелавой інфармацыяй. Ствараецца банк даных: эканамічных, юрыдычных, тэхнічных, неабходных для камерцыйнай работы. Гэтым займаецца створаная нядаўна фірма «Інфармцэнтр». Акрамя таго, яна праводзіць прэс-канферэнцыі, брыфінгі і іншыя мерапрыемствы для сродкаў масавай інфармацыі. Сфера яе дзейнасці таксама — рэклама, прэзентацыі савецкіх арганізацый, сумесных прадпрыемстваў і замежных фірм. Словам, усё, што садзейнічае ўзаемаразуменню і даверу партнёраў.

Перспектыўная і такая новая форма работы другой фірмы — «Інтэркангрэс», як правядзенне інфармацыйных форумаў. Мэта — знаёміць бізнесменаў са зменамі, што адбываюцца ў народнай гаспадарцы Савецкага Саюза, у тым ліку ў яго знешнеэканамічным комплексе, у выніку перабудовы, якая праходзіць у краіне. Дарэчы, пераважная большасць сустрэч дзелавых людзей Захаду з савецкімі партнёрамі праводзіцца пры садзейнічанні фірмы «Інтэркангрэс». Яе сфера — правядзенне мерапрыемстваў любога характару і маштабу, як буйнога кангрэса, так і семінара ці выстаўкі-адбору тавараў для вузкага кола спецыялістаў.

Партнёрамі «Інтэркангрэса» сталі «Сатра карпарэйшн» (ЗША), «Куртоулдз Сентрал» (Вялікабрытанія), «Міцуі» (Японія), Індыйская асацыяцыя экспарцёраў абутку і многія іншыя. Пастаянна працуюць з савецкай фірмай таксама «Дзірос АБ» (Швецыя), «Інтэрмедзіа Інтэрнэшнл» і «Інтэр-экспо» (Італія), «Бары Марцін Трэвел» (Вялікабрытанія), «Ост Хандэль Кансалцінг», якія актыўна садзейнічаюць прыцягненню замежных фірм да ўдзелу ў мерапрыемствах «Савінцэнтра».

— Тым самым вырашаецца адна з галоўных задач ЦМГ — садзейнічаць наладжванню і развіццю гандлёва-эканамічных і навукова-тэхнічных сувязей паміж Усходам і Захадам, — падкрэсліў Аляксандр Падвалоцкі.

Прычым «Савінцэнтр» аказвае прадстаўнікам дзелавога свету самыя розныя паслугі — ад пошуку партнёраў да садзейнічання ў заключэнні ўзаемавыгадных здзелак. Вядома, работы ў гэтай галіне значна прыбавілася з прадастаўленнем права самастойнага выхаду на замежны рынак практычна ўсім буйным савецкім прадпрыемствам і кааператывам.

Вялікія надзеі на пашырэнне гэтай дзейнасці ўскладаюцца ў сувязі з намерам Гандлёва-прамысловай палаты СССР, куды, дарэчы, уваходзіць «Савінцэнтр», стварыць сетку цэнтраў, падобных ЦМГ, у розных рэгіёнах краіны, у прыватнасці ў Кіеве, Мінску, Тбілісі. Нагадаем, што Маскоўскі цэнтр — адзін з буйнейшых у свеце. У яго комплексе ёсць усё, што неабходна для дзелавых людзей. Да іх паслуг камфартабельная гасцініца, атэль кватэрнага тыпу, абсталяваны сучаснай аргтэхнікай будынак офісаў, кангрэс-цэнтр з заламі, аснашчанымі ўсімі сродкамі для правядзення міжнародных форумаў. Цяпер у ЦМГ размяшчаюцца каля 80 прадстаўніцтваў акрэдытаваных у СССР замежных фірм, банкаў і авіякампаній больш чым з 20 краін, у асноўным Аўстрыі, ФРГ, Вялікабрытаніі, Японіі, Італіі.

Маскоўскі цэнтр будзе развівацца. Магчымасці яго абмежаваныя, хаця патэнцыял «Савінцэнтра» для камерцыйнай работы далёка не вычарпаны. Пакуль з пяці бізнесменаў, якія звяртаюцца, абслугоўваецца толькі адзін. Каля 100 фірм чакаюць атрымання плошчы пад офісы. Словам, матэрыяльна-тэхнічная база мае патрэбу ў істотным пашырэнні. Таму побач з цяперашнім ЦМГ вядзецца будаўніцтва яго другой чаргі, куды ўвойдзе гасцініца тыпу «Інтэркантыненталь», а таксама адміністрацыйны корпус з вылічальным цэнтрам і ўсім неабходным абсталяваннем для прадстаўнікоў фірм і банкаў. І тады гэта будзе адзіны бізнес-цэнтр Масквы, які адпавядае самым высокім патрабаванням.

## *ДЫЯЛОГ З ВУЧОНЫМ МІКОЛАМ ЕРМАЛОВІЧАМ*

# КРОПКА ЯШЧЭ НЕ ПАСТАЎЛЕНА

**Прычынай для напісання гэтага матэрыялу паслужыў эпізод, быццам бы і нязначны. Неяк у адной з перадач Гродзенскага тэлебачання прамільгнуў сюжэт пра гісторыка і археолага Тэадора Нарбута, які нарадзіўся ў Воранаўскім раёне і там жа пахаваны. У свой час скончыў Віленскі універсітэт, быў ваенным інжынерам рускай арміі. Шмат пісаў пра беларускі і літоўскі народы на мовах рускай і польскай. Ці то з дня нараджэння, ці то з дня смерці (1784—1864) адзначалася юбілейная дата. Да магілы ўсклалі кветкі прадстаўнікі і Беларусі, і Літвы, але падалося дзіўным, калі Т. Нарбут чамусьці быў названы літоўскім вучоным... Каторы раз падумалася: адкуль бяруцца гэтыя і навуковыя, і літаратурныя, і тэрытарыяльныя прэтэнзіі літоўцаў, і да чаго яны прывядуць.**

**Мінуў нейкі час, і ў рэдакцыі адбылася цікавая гаворка з аўтарытэтным беларускім гісторыкам Міколам Ермаловічам, які многія гады прысвяціў вывучэнню эпохі стварэння Вялікага княства Літоўскага, пераглядаючы і пераасэнсоўваючы гістарычныя крыніцы, што датычацца нашай далёкай мінуўшчыны. У кніжцы «Па слядах аднаго міфа» М. Ермаловіч прапануе сваю канцэпцыю стварэння і гісторыі Вялікага княства Літоўскага і пацвярджае яе спасылкамі на крыніцы.**

— У гістарычнай навуцы была трывалай думка, — пачаў Мікола Іванавіч, — што ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага ў сярэдзіне XIII стагоддзя пачалося з заваявання літоўскім князем Міндоўгам беларускіх земляў і ў першую чаргу так званай Чорнай Русі з гарадамі Навагародкам, Слонімам, Гародняй і г. д.

Быццам бы існавала Літоўская дзяржава, якая заваявала ўсю Беларусь, вялікую частку Украіны і значную частку Расіі. Мяжа ішла амаль што каля Мажайска. Гэта ведаў кожны літовец, кожны школьнік і быў перапоўнены патрыятычнымі пачуццямі. Але аказалася, што кароль жа голы. Ніякага заваявання Літвой іншых земляў не было.

Аднак адкуль пайшла гэтая памылка?

Ніводная ж гістарычная крыніца не пацвярджае літоўскага заваявання Чорнай Русі і іншых беларускіх земляў, што нібыта і з'явілася пачаткам утварэння Вялікага княства Літоўскага. Учытваючыся ў крыніцы, я ўбачыў, што сцвярджэнне такое ўзнікла ў сярэдзіне XVI стагоддзя, каб ідэалагічна абгрунтаваць права Вялікага княства Літоўскага на беларускія землі, значная частка якіх у той час была занята войскамі Івана Грознага. Думка гэта стала традыцыйнай, доўгі час не пераглядалася і пераходзіла з адной гістарычнай працы ў другую.

Значнай перашкодай для аб'ектыўнага асвятлення працэсу ўтварэння Вялікага княства Літоўскага з'яўляецца атаясамліванне летапіснай, гістарычнай Літвы з усходняй часткай сучаснай Літвы. У XI—XIII стагоддзях пад уласна Літвой разумелася тэрыторыя Верхняга Панямоння. Яна ўрэзвалася клінам паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Навагародскай землямі і з'ўлялася адной з гістарычных абласцей Беларусі. Зразумела, што пры аб'яднанні гэтых земляў яна не магла не ўвайсці ў склад тэрыторыі Беларусі як адна з яе састаўных частак. Акружаная з усіх бакоў крывічамі і дрыгавічамі, яна ўжо ў XII—XIII стагоддзях у значнай частцы сваёй была асімілявана і каланізавана.

Толькі ў XIV стагоддзі, калі сталіца Вялікага княства Літоўскага з Навагародка была перанесена ў Вільню, назва Літва пачынае пераходзіць на тэрыторыю сучаснай Літвы, землі, якія ў сваёй усходняй частцы называліся Аўкштайціяй, а ў заходняй — Жамойціяй, ці Жмуддзю. Апошняя назва ўжывалася яшчэ і ў XIX стагоддзі.

**— А сучасная Літва ўваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага!**

— Безумоўна, уваходзіла.

**— Яшчэ са школьных падручнікаў, як мы цяпер разумеем, надзвычай павярхоўных і тэндэнцыйных, нашы вучні даведваюцца, што ў XIII—XIV стагоддзях літоўскія князі паступова падначальваюць сваёй уладзе беларускія землі і гаспадараць на іх. Здаецца, гэтым звесткі пра Вялікае княства Літоўскае і абмяжоўваюцца!**

— Сапраўды, падручнікі да крыўднага абыякавыя да асвятлення беларускай гісторыі. Як я ўжо зазначаў, ніякага літоўскага заваявання беларускіх земляў не было і быць не магло. Нідзе і нікім не даказвалася, а толькі сцвярджалася, што літоўскі князь Міндоўг прыйшоў дзесьці з-пад Вільні, заваяваў Навагародак і зрабіў яго сваёй сталіцай. А чаму ён не ўзвысіў уласныя ўладанні?

К сярэдзіне XIII стагоддзя Навагародак (ці як мы сёння гаворым Навагрудак) стаў буйнейшым эканамічным і культурным цэнтрам Беларусі. Стаяў ён на багатых урадлівых землях, славіўся сваімі рамёствамі, асабліва значаліся кавалі па золату і іры. Багатым феадалам і гарадской знаці рабілася цесна ў рамках Навагародскай зямлі, і яны ўзялі ў свае рукі справу аб'яднання ўсіх беларускіх земляў. Сцвярджэнні, што ў гэты час беларускія землі пагра міжусобіцах, не пацвярдж цца летапісамі, ніводнай міжусобнай вайны не зарэгістравалі і нямецкія хронікі.

У XII—XIII стагоддзях аслаблены крыжакамі, паступова страчвае магутнасць Полацк, які да гэтага часу фактычна быў палітычным цэнтрам Беларусі. Цяпер цэнтр пераяшчаецца з Падзвіння ў Панямонне, у Навагародак. У сілу развіцця свайго эканамічнага патэнцыялу ён быў у стане ўзяць у свае рукі аб'яднанне беларускіх земляў. Аднак аб'яднанню перашкаджала летапісная Літва, якая, як я ўжо падкрэсліваў, урэзвалася клінам паміж Навагародскай і Турава-Пінскай землямі. Каб пашырыць сваю ўладу на Полацкую і Турава-Пінскую землі, Навагародку трэба было перш за ўсё заваяваць Літву. Вось тут мясцовыя феадалы і выкарысталі Міндоўга.

**— Як жа гэта разумець: літоўскі князь Міндоўг заваёўвае Літву!**

— Сапраўды дзіўна, што ніхто з даследчыкаў не звярнуў увагі на выраз з Іпацьеўскага летапісу: «Міндоўг Літву зане». Словы ж гэтыя поўнасцю абвяргаюць сцвярджэнне, што літоўскі князь заваяваў Чорную Русь. Міндоўг заняў Літву, і менавіта з Навагародка, куды ўцёк, ратуючыся ад сваіх супляменнікаў, пацярпеўшы паражэнне ў міжусобнай барацьбе. Міндоўг быў сапраўднай знаходкай для навагародскіх феадалаў, якія выкарысталі наёмніка для заваявання літоўска-балцкіх земляў. Для кожнага перабежчыка з Літвы было абавязковым прыняцце хрысціянства. Тое ж самае зрабіў і Міндоўг, аб чым паведамляецца ў Густынскім летапісе: «Миндовг приять веру христианскую от Востока со многими своими бояры... непомнозе же сын его Войшелк пострижется во иночество». Ранейшыя даследчыкі, на жаль, і на гэта летапіснае паведамленне не звярнулі ўвагі. Факт жа прыняцця літоўскім князем хрысціянства «от Востока» пацвярджае, што ён не заваёўваў Навагародак, а быў абраны тут князем, як пазней Даўмонт у Пскове.

Аднак першая спроба заваявання Літвы Навагародскай зямлёй закончылася няўдачай. Канчаткова пакарыў яе і заклаў трывалы падмурак новай дзяржавы, а менавіта Вялікага княства Літоўскага, сын Міндоўга — Войшалк, тонкі і хітры палітык, які ў сваёй барацьбе абапіраўся на сілы Навагародка і саюзнага яму Пінска. Дарэчы, Літва спачатку прыязна прыняла свайго гаспадзіна, аднак, калі Войшалк заняў усю летапісную Літву і мясцовыя феадалы зразумелі, што ён прыйшоў як стаўленік Навагародка, яны выступілі супраць яго. Войшалк тады «...нача вороги свои избивати, изби их бесчисленное множество», а многія разбегліся, хто куды. Чамусьці і гэтыя словы зноў-такі не прыводзіліся ранейшымі і сучаснымі даследчыкамі, хаця яны, гэтыя словы, поўнасцю абвяргаюць сцвярджэнне, што ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага было ў інтарэсах літоўскіх феадалаў. Летапісы засведчылі, ш яны былі галоўнымі ворага стварэмай Войшалкам дзяржавы.

Аднак, калі далучэнне Літвы, Нальшчанаў і Дзяволтвы да Навагародка было гвалтоўным, то далучэнне Пінска, Полацка Віцебска і іншых беларускіх аб ласцей праходзіла добраахвотна. Аб'яднанне гэта было вынікам гістарычнага працэсу эканамічнага, палітычнага і культурна-этнічнага збліжэння беларускіх земляў у басейнах рэк Дзвіны, Дняпра, Нёмана, на аснове чаго ішло фарміраванне тэрыторыі Беларусі. Роля горада-заснавальніка Вялікага княства Літоўскага належыць Навагародку. Менавіта старажытны герб гэтага горада — коннік з мячом над галавой (пагоня) стаў дзяржаўным гербам Вялікага княства Літоўскага.

**— Шматлікія археалагічныя раскопкі, як вы сказалі, сведчаць, што першая сталіца Вялікага княства Літоўскага — Навагародак быў славянскім горадам. А што вядома пра Вільню, другую сталіцу княства!**

— Вільня, як і Навагародак, была славянскім горадам. Археалагічныя пошукі польскіх археолагаў Галубовічаў паказалі, што горад быў заснаваны крывічамі. Усе іх знаходкі — крывіцкія, падобныя да полацкіх старажытнасцей. Не дзіўна, што спачатку Вільня называлася Крывіч-горадам, альбо Крывым горадам, а ў нямецкіх хроніках яна называецца Крывіч-каструм, што значыць крывіцкая крэпасць. І насельніцтва яе было галоўным чынам крывіцкае, славянскае. Крыжацкі ордэнскі пасол Кірбут, які знаходзіўся ў Вільні, сведчыць, што князі і вяльможы пры вялікакняжацкім двары гаварылі выключна на рускай мове, ці, як мы сёння разумеем, на беларускай мове.

**— Мікола Іванавіч, чаму раней нікому не здавалася дзіўным, што ў Літоўскай дзяржаве, якой лічылася Вялікае княства Літоўскае, дзяржаўнай мовай была беларуская! Хіба літоўцы дапусцілі б такое, каб займалі пануючае становішча! Такога, здаецца, у гісторыі ніколі і нідзе не было.**

— Не, не было. І быць не магло. У дачыненні да Вялікага княства Літоўскага такая з'ява тлумачылася нейкім «двоеўладдзем»: палітычная ўлада была быццам бы за літоўскімі князямі, а пануючая культура за «рускім племем». У старой гістарыяграфіі сцвярджалася: маўляў, літоўскія князі заваявалі славянскую тэрыторыю і, каб кіраваць такой вялізнай дзяржавай, павінны былі прыняць мову і культуру народа, які складаў большасць на гэтай зямлі. Абсурднае сцвярджэнне. Славянскі характар Вялікага княства Літоўскага быў ужо прадвызначаны пры яго стварэнні ў сярэдзіне XIII стагоддзя. Карл Маркс у сваёй працы «Сценька Разін» пісаў: «Русь тады была падзелена на дзве дзяржавы: Маскву і Літву».

**— Тэадор Нарбут, з імя якога пачалася наша гаворка, адзін з прадстаўнікоў той самай старой гістарыяграфіі! І нарэшце, каму ён належыць: беларусам ці літоўцам!**

— Вучоны напісаў вялікую 9-томную працу «Гісторыя літоўскага народа», аднак літоўскім гісторыкам яго лічыць нельга. Як засведчыў Кіркор у «Жывапіснай Расіі», які быў знаёмы з Нарбутам, апошні не ведаў нават літоўскай мовы і пісаў у асноўным на польскай. Нарбут падзяляў тэорыю літоўскага заваявання Беларусі, але адначасова пад Літвой разумеў і беларускія землі, не прыніжаў іх значэнне.

Ну і калі гаварыць пра тое, што літоўцы называюць Нарбута сваім гісторыкам, то варта згадаць, што і Кастуся Каліноўскага яны называюць Костас Калінаўскас. Ён дзейнічаў і загінуў у Літве, але ж гэта беларускі рэвалюцыянер. Ніводны дакумент не напісаны Каліноўскім на літоўскай мове. І «Мужыцкая праўда», і «Лісты з-пад шыбеніцы» — на беларускай мове. Пры гэтым сам Каліноўскі вельмі рэдка ўжывае слова Беларусь, а больш Літва, а пра тую Літву, якую мы ведаем сёння, гаворыць — Жмудзь.

У сваёй кніжцы я прыводзіў прыклад з дзекабрыстам, які жыў на тэрыторыі Валожынскага раёна і пісаў свой адрас у Пецярбург так: «Літва, деревня Выгоничи в 25 верстах от Минска».

**— Многія дзеячы беларускай навукі і культуры скончылі Віленскі універсітэт. Яны што, вучыліся на літоўскай мове!**

— У адным са старэйшых у Еўропе — Віленскім універсітэце літоўскай мовы ніколі не было. Выкладанне вялося на польскай, лацінскай ці на старабеларускай мовах. Літоўцы абсалютна ніякага ўкладу ў культуру Вялікага княства Літоўскага не ўнеслі, не далі ніводнага больш-менш значнага дзяржаўнага або культурнага дзеяча, пісьменніка.

Пасля Люблінскай уніі 1569 года польскай мовай пачала выцясняцца беларуская мова, дыскрэдытавалася, апаганьвалася менавіта беларуская культура, таму што яна займала пануючае месца ў Вялікім княстве Літоўскім. Найбольш пацярпела беларуская мова, а не літоўская, на якой амаль ніхто і не гаварыў і якая не мела дзяржаўнага значэння.

**— А як сталася, што Вільню мы называем цэнтрам беларускай культуры!**

— Так было, пачынаючы з XIV стагоддзя. Калі насельніцтва было ў асноўным крывіцкае, то і мова яго была родная, беларуская. Канцылярыя, справаводства вяліся на гэтай мове.

**— І тое, што мы мелі ў канцы XIX стагоддзя (я маю на ўвазе «Нашу ніву», пісьменнікаў, якія вакол яе гуртаваліся, выдавецтва), было гістарычна падрыхтавана!**

— Канешне. Таму што беларусы глядзелі на Вільню як на свой горад. І «Наша доля», «Наша ніва» выходзілі менавіта тут. Перапіс 1897 года стаў у нейкім родзе адкрыццём. 56 працэнтаў насельніцтва Віленскай губерні назвалі сябе беларусамі. У Вільні жылі палякі, яўрэі, беларусы, рускія і лічаныя літоўцы, недзе каля дзвюх тысяч. Карэннае насельніцтва ад Вільні да Трок гаварыла на беларускай мове. Так пісалі ў XIX стагоддзі, але можаце і зараз паехаць і паслухаць, на якой мове гавораць у гэтай мясцовасці. Пачуеце, што ў асноўным па-беларуску.

Я не перастаю дзівіцца, чаму гэта літоўцы выступаюць супраць пакта Молатава — Рыбентропа. Яны ж ад яго выйгралі. Па гэтаму дагавору ім аддалі Вільню і Віленскую вобласць, спрадвечна беларускія землі.

На сесіі Вярхоўнага Савета СССР Молатаў гаварыў прыкладна так: «Мы знаем, што там жыве не літоўскае насельніцтва, але паколькі Вільня цесна звязана з літоўскай гісторыяй, была сталіцай Вялікага княства Літоўскага, мы ім аддаём Вільню».

**— Зноў-такі блытаніна з гістарычнай Літвой і сучаснай!**

— Зноў блытаніна і недасведчанасць. І яшчэ гістарычная несправядлівасць. Пачынаючы з Брэсцкага міру, быў вельмі неспрыяльны перыяд у гісторыі Беларусі. Яна фактычна ператварылася ў разменную манету. Частку аддалі немцам (потым, праўда, вярнулі), Заходнюю Беларусь — Польшчы, нейкія тэрыторыі адышлі да Літвы і Латвіі. І ўсюды абыходзіліся без беларусаў. Пры заключэнні Рыжскага дагавора ў 1921 годзе былі дэлегацыі РСФСР і Украіны, а з Беларусі, хаця яна ўжо была абвешчана рэспублікай, нікога не было. І не было каму закінуць за яе слоўца.

Я ўпэўнены, што нашы народныя дэпутаты павінны ўзняць сёння тэрытарыяльнае пытанне. Залішняя далікатнасць у адносінах да літоўцаў, якія паводзяць сябе ў прыгранічных раёнах Беларусі, мякка кажучы, некарэктна, здаецца мне неапраўданай.

**Канцоўку гэтай гутаркі дапісала жыццё. І кропка яшчэ не пастаўлена. З Міколам Ермаловічам мы сустракаліся ў пачатку сакавіка, а ў канцы месяца з'явілася Заява Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, у якой гаварылася аб лёсе «спрадвечна беларускіх тэрыторый», што ў кастрычніку 1939 года без паведамлення і згоды Беларускай ССР былі перададзены Літоўскай рэспубліцы. Дагавор паміж Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР і Прэзідэнтам Літоўскай рэспублікі, згодна з якім ад Беларусі адрываліся горад Вільня і Віленская вобласць, быў вынікам заключэння пакта Молатава — Рыбентропа і страціў сілу ў момант нападу Германіі на СССР.**

**Вядома, мне хацелася пачуць рэагаванне Міколы Іванавіча на гэты важны для беларускага народа дакумент. Я пазваніла ў Маладзечна, дзе жыве вучоны, і, задаўшы пытанне, пачула ўзбуджаны голас:**

— Прэтэнзіі нашы справядлівыя, хаця яўна запозненыя. Я поўнасцю за патрабаванні, выказаныя ў Заяве. Зараз вельмі адказны момант. Літоўцы вырашаюць свой лёс. Гэта іх справа. Тэрытарыяльныя ж прэтэнзіі да іх з боку беларусаў абгрунтаваныя, трэба даказваць і дабівацца, каб яны былі задаволены.

**Гутарку вяла
Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

